Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць з верасня 1995 года

# Газета Уладзіміра Кудзінава

СУБОТА
28 кастрычніка
1995 года
№ 12

Цана па падпісцы – 412 руб.,
цана ў розніцу – 700 руб.

## ЗАЎТРА – ДЗЕНЬ АЎТАМАБІЛІСТА

# ВЕЦЕР ЗА КАБІНАЮ. ДЫ НЕ СПАДАРОЖНЫ...

**З РАЗДВОЕНЫМ НАСТРОЕМ СУСТРАКАЕ ПРАФЕСІЙНАЕ СВЯТА КАЛЕКТЫЎ АЎТАПАРКА № 14**



*НА ЗДЫМКУ: з першага дня заснавання аўтабазы ў Івацэвічах, а гэта ўжо 34 гады, нязменна працуе вадзіцелем аўтобуса Мікалай Якубайлік. Некалі асвойваў першы ў раёне аўтобус ПАЗ-651, які пасажыры называлі няйнакш як „карчом" за яго маленькую ўмяшчальнасць і халадэчу, а сёння водзіць да Пінска мяккі ЛАЗ-699. Толькі радасці асаблівай ад гэтага не паспытвае. „Было жыццё, ды сплыло, – толькі і сказаў нам вадзіцель-ветэран, рыхтуючы ў чарговы рэйс свой ЛАЗ. І дадаў: – Так што, выбачайце, не да свята..."*

*Усё роўна, са святам Вас, Мікалай Мікалаевіч. Не можа так быць, каб яно заўсёды было сумным...*

**ТАК,** не з падвоеным энтузіязмам, як звычайна пачыналіся аналагічныя гэтаму артыкулы са святочнымі рапартамі яшчэ нейкіх пяць гадоў назад, а менавіта з раздвоенымі пачуццямі, у якіх песімістычных нотак куды больш, чым аптымістычных, падышлі да свайго свята работнікі вядучай транспартнай арганізацыі нашага раёна. Не да рапартаў ім сёння, бо ў тым становішчы, у якім апынуліся транспартнікі, „не до жиру, быть бы живу". У нейкай ступені можна было зразумець начальніка аўтапарку І. М. Хмялеўскага, які адмахваўся ад журналістаў, маўляў, гэта некалі, захлёбваючыся пра планы ды іх перавыкананне гаварылі і пісалі. Мо таму і дайшлі да таго, што маем сёння. А трэба было не пра планы трубіць, а вучыцца грошы лічыць, прыбыткаў дабівацца і зноў лічыць. Прытым, не толькі каб кіраўнік з эканамістам і бухгалтарам рабілі гэта, а кожны працаўнік, тады б і толк быў...

Без усялякага жадання, што аніяк і не ўтойвалася, вёў з намі гаворку начальнік аўтакалоны. Дый пра што гаварыць, калі работы для грузавога транспарту, які заўсёды цягнуў „галоўную лямку", амаль няма, ніхто заявак на яго ў раёне не падае. Стаяць нават тыя пяць спецмашын, якіх набылі некалі, каб абслугоўваць раённыя арганізацыі гандлю і сувязі: раней гэтыя машыны літаральна на часткі „рвалі", а сёння нікому ўжо яны не патрэбны.

– Якраз у гэты час, у кастрычніку, раней дагаворы на перавозкі заключаліся, і я ўжо ведаў, што будзе зроблена ў будучым годзе, колькі спатрэбіцца бензіну, дызпаліва, машыннага масла, запчастак, – з горыччу ў голасе працягваў І. М. Хмялеўскі. – А сёння што? Выконваем разавыя заказы – і таму рады. Дарог не будуюць, машыны нашы нікому не патрэбны. Знаходзім тое-сёе за межамі раёна, напрыклад, на Гомельшчыне, але работы той, што кот наплакаў для нашага грузавога парка.

І ўсё ж, як бы ні прыбядняўся кіраўнік, трэба аддаць належнае: у аўтапарку № 14, нягледзячы на ўсе складанасці сітуацыі, намагаюцца нешта рабіць, каб, як кажуць, утрымацца на плаву. Прыбытак за дзевяць месяцаў склаў па арганізацыі 133 мільёны рублёў. Не было яшчэ выпадкаў з затрымкай зарплаты. У дзень наведвання аўтапарка тут разлічыліся за паліва, хоць былі гэта немаленькія грошы – 50 мільёнаў. Крыху раней далі кожнаму працуючаму па 100 тысяч на набыццё гародніны, па такой жа суме вырашана выплаціць людзям да Дня аўтамабілістаў (на чарку ды скварку хопіць, але не на больш).

Хоць у апошнія гады назіралася няспыннае змяншэнне аўтобусных маршрутаў, ды, худа-бедна, аўтобусы ўсё ж дастаўлялі жыхароў раёна ў кожны яго населены пункт. Няхай не штодня і толькі раніцою ды вечарам, але аўтобуснікі працягваюць гэта рабіць і зараз. З пачатку года выканана пасажырскіх рэйсаў на дзве тысячы больш, чым за ўвесь мінулы год, амаль на 25 тысяч больш перавезена ўжо пасажыраў. Тым не менш, фігуруе ў справаздачах і такая лічба: прыгарадныя пасажырскія перавозкі далі аўтапарку 94 мільёны рублёў страт, і гэта пры адпаведных дзяржаўных датацыях.

Напрыканцы нашай далёка не прыўзнятай размовы І. М. Хмялеўскі ўзяў са стала нейкую паперыну і, размахваючы ёю, нібы астуджваючы сябе ў без таго халодным кабінеце, сказаў: „Вось яны, усе нашы 30 кліентаў, якія ніяк не разлічацца за паслугі. А гэта ні многа, ні мала 163 мільёны рублёў, за якія можна набыць 10 бензавозаў гаручага – нам на два з паловай месяцы працы хапіла б. Але і за намі даўжок ёсць, напалову меншы, праўда..."

**...КАЛІ** кіраўнік аўтапарка, трымаючы гэткі своеасаблівы перадсвяточны „рапарт", намагаўся ў час размовы схаваць свае эмоцыі, дык вадзіцелі на пытанне „як працуецца?" адказвалі больш узбуджана і гняўліва: „Не давядзі Гасподзь такой працы. Аніякага ні інтарэсу, ні стымулу да яе не маем сёння. І прасвятлення наперадзе не бачна..."

Што было адказаць на такія словы? Нашы віншаванні з наступаючым прафесійным святам павісалі, што гаворыцца, у паветры.

І ўсё ж, з Днём аўтамабіліста, шаноўныя! Вышэй галаву! І добрага ветру вам за кабінай, ды не стрэчнага, а спадарожнага.

**М. РЫМАЧ,**
**А. КАНУННІКАЎ (фота).**

---

## • НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

# АД СУБОТЫ ДА СУБОТЫ

### ЗАЛАТЫ ЮБІЛЕЙ ААН

У сувязі з 50-годдзем Арганізацыі Аб'яднаных Нацый беларуская дэлегацыя на чале з Прэзідэнтам рэспублікі А. Р. Лукашэнкам наведала ЗША. Кіраўнік дзяржавы выступіў на спецыяльным урачыстым пасяджэнні Генеральнай Асамблеі ААН.

Адбыліся сустрэчы Прэзідэнта дзяржавы з прадстаўнікамі амерыканскіх дзелавых колаў, выхадцамі з Беларусі, з дзяржаўнымі дзеячамі іншых краін, запрошаных на святкаванне.

### НОВАЯ ЎЗНАГАРОДА – ОРДЭН МАЦІ

Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ, якім зацвердзіў інструкцыю аб парадку прадстаўлення мнагадзетных маці да ўзнагароджання ордэнам Маці.

У адпаведнасці з Законам „Аб дзяржаўных узнагародах Рэспублікі Беларусь" ордэнам Маці ўзнагароджваюцца жанчыны, якія нарадзілі і выхавалі пяць і больш дзяцей. Прадстаўленне мнагадзетнай маці да ўзнагароды праводзіцца пры дасягненні апошнім узросту аднаго года і пры ўмове, што ўсе астатнія яе дзеці жывыя.

### АБ ПРЫЧЫНЕ ГІБЕЛІ АМЕРЫКАНЦАЎ ДАВЕДАЕМСЯ ПРАЗ ПАЎГОДА

Міжнароднае расследаванне па факту знішчэння 12 верасня ў паветранай прасторы Беларусі паветранага шара з двума амерыканскімі грамадзянамі на борце працягваецца і канчатковае заключэнне з каментарыямі ўсіх членаў камісіі чакаецца праз чатыры-шэсць месяцаў.

### ПРЫВАТНЫ БІЗНЕС І „ВАЛЮТНЫ ПІРОГ"

Паміж Еўрапеўскім банкам рэканструкцыі і развіцця і Белзнешэканомбанкам падпісана пагадненне аб падтрымцы малога і сярэдняга бізнесу ў рэспубліцы. Гэты дакумент адкрывае доступ да грашовых рэсурсаў у замежнай валюце беларускім прыватным прадпрыемствам пры правядзенні крэдытных аперацый па рэалізацыі праектаў.

### КОЛЬКІ НАМ ЗАВІНАВАЦІЛАСЯ ДЗЯРЖАВА

Паводле даных Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, у 1995 годзе запазычанасць па выплаце заработнай платы ў краіне складала на 1 жніўня – 592,7 млрд. рублёў, на 1 верасня – 456, на 1 кастрычніка – 683,4 млрд. руб.

Як сведчыць статыстыка, у студзені–верасні 1995 года сярэднямесячная заработная плата, уключаючы матэрыяльную дапамогу і сацыяльна-працоўныя льготы, склала 693 тысячы рублёў.

**(Па старонках рэспубліканскіх газет).**

---

## ПЕРАДВЫБАРЧЫ МАРАФОН: ЭТАП НАСТУПНЫ

**Акруговыя выбарчыя камісіі канчаткова вызначылі кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Хто ж гэтыя людзі, якія імкнуцца, калі акажуць давер выбаршчыкі, заняць месца ў беларускім парламенце? Гэта...**

**па Івацэвіцкай выбарчай акрузе № 20**

**Кудзінаў Уладзімір Аляксеевіч,** дырэктар гандлёва-прамысловай фірмы „Івацэвічы";

**Рыжко Іван Мікалаевіч,** галоўны ўрач раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання;

**Рыпка Аляксандр Іванавіч,** камандзір вайсковай часці;

**Ярчак Валерый Міхайлавіч,** памочнік экзарха Беларусі па прававых пытаннях.

**па Косаўскай выбарчай акрузе № 21**

**Чырко Іван Мікалаевіч,** начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама;

**Шляжка Васіль Сцяпанавіч,** старшыня калгаса імя Чапаева;

**Юнчык Леанід Мікалаевіч,** намеснік галоўнага рэдактара газеты „Рэспубліка".

XXX

Адначасова тры кандыдаты прэтэндуюць на адно заўстаўшаеся ў раёне дэпутацкае месца ў Брэсцкім абласным Савеце. У раённы Савет па 13-ці акругах балаціруюцца 32 кандыдаты, у два гарадскія па кожнай з 22-х акругаў, як і па кожнай з чатырох пасялковых, – па аднаму кандыдату, у сельскія Саветы на 27 акругаў – 29 кандыдатаў.

Завяршаецца рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты ўсіх узроўняў.

**Поспехаў усім!**

XXX

**Інструктыўная нарада старшынь выбарчых камісій прайшла ў райцэнтры. Пра размеркаванне і выкарыстанне выдзеленых на час перадвыбарчай кампаніі грашовых сродкаў гаварыла на ёй галоўны бухгалтар фінансавага аддзела райвыканкама М. Ф. Ларава. Загадчыца аддзела арганізацыйна-кадравай работы райвыканкама Т. І. Крыушына спынілася на пытаннях правядзення галасавання, афармлення адпаведных дакументаў, асвятліла абавязкі выбарчых камісій.**

**Вынікі нарады падвёў старшыня райвыканкама П. Г. Жышко.**

**Кіраўнікам, іншым асобам, якія займаюць адказныя службовыя пасты, журналісты звыкла задаюць пытанні, якія маюць грамадскае гучанне. У прапануемым чытачам інтэрв'ю мы не пазбеглі гэтай традыцыі. Толькі палічылі патрэбным дапоўніць яго некалькімі пытаннямі асабістага характару, адказваючы на якія наш субяседнік – дырэктар гандлёва-прамысловай фірмы „Івацэвічы" У. А. КУДЗІНАЎ – шчыра характарызуе сябе як асобу.**

# СУМЛЕННАСЦЬ, АДКРЫТАСЦЬ, ПРАФЕСІЯНАЛІЗМ

**– Чаму Вы, Уладзімір Аляксеевіч, не лічыце патрэбным быць членам якой-небудзь партыі?**

– Сапраўды, я да гэтай пары не зрабіў выбару на карысць якой-небудзь партыі. І, думаю, што нічога ад гэтага не страціў, бо ўсе існуючыя сёння партыі маюць не толькі станоўчыя якасці, але і адмоўныя. Але ж справа нават не ў гэтым. Па-першае, партыя – гэта заўсёды абмежаванае кола людзей, якое так ці інакш навязвае свае ідэі іншым. Добра – калі гэта разумныя, эканамічна абгрунтаваныя ідэі, рэалізацыя якіх магчыма. Але ж мы цяпер бачым мноства прыкладаў адваротнага характару, калі людзей проста падманваюць салодкімі абяцанкамі, спекулююць на цяжкім матэрыяльным становішчы, якое і з'яўляецца вынікам гэтых абяцанак і г. д.

Па-другое, ці трэба абавязкова быць членам нейкай партыі, каб рабіць дабро людзям? Дастаткова, на маю думку, займацца рэальнай справай, якая прыносіць карысць грамадству. Я маю такую справу. Фірма „Івацэвічы" забяспечвае жыхароў раёна прадуктовымі і прамысловымі таварамі. Іх продаж вядзецца з гандлёвымі надбаўкамі (20% – на прадуктовыя тавары, не болей за 30% – на прамысловыя), якія значна ніжэйшыя за гандлёвыя надбаўкі, якія выкарыстоўваюцца ў сістэме райспажыўсаюза. Ды кожны пакупнік і сам можа пераканацца ў гэтым, калі параўнае цэны на тавары ў магазінах фірмы і магазінах спажывецкай кааперацыі. Стварэнне новых рабочых месцаў, аказанне фінансавай дапамогі некаторым арганізацыям (напрыклад, райбальніцы, царкве), людзям, якія трапілі ў бяду, школьнікам і іншыя добрыя справы зусім не патрабуюць таго, каб дырэктар фірмы быў членам якой-небудзь партыі.

**– Якімі прынцыпамі кіруецеся Вы ў паўсядзённай рабоце?**

– У мяне ёсць тры прынцыпы – сумленнасць, адкрытасць, прафесіяналізм. Аднайменныя рысы характару найбольш цаню і ў людзях. Чалавек, які ўзяўся за нейкую справу, але не валодае названымі якасцямі, лічу, многага не дасягне.

**– Колькі гадзінаў у суткі Вы працуеце?**

– Мой рабочы дзень пачынаецца ў восем гадзінаў раніцы і заканчваецца таксама у восем гадзінаў вечара. На жаль, даводзіцца працаваць і ў выхадныя – па 6–7 гадзінаў. Я не лічу, што такі расклад маёй работы – добры. Наадварот. Але ж ён выкліканы неабходнасцю, бо фірма „Івацэвічы" яшчэ не выйшла з перыяду станаўлення. Калі работа яе набудзе стабільнасць, то і мой рабочы дзень будзе васьмігадзінным.

**– Ці знаходзіце Вы час на тое, каб кнігу пачытаць, часопіс ці газету?**

– Чытаць люблю наогул, гістарычныя кнігі перш за ўсё. Але цяпер на гэта час рэдка знаходзіцца.

А вось прэсу – рэспубліканскую, абласную, мясцовую прагдядваю рэгулярна. Нават імёны многіх журналістаў ведаю, сачу за іх творчасцю. З задавальненнем успрымаю як добрыя водгукі аб рабоце нашай фірмы, так і крытычныя заўвагі, бо яны дапамагаюць паглядзець на сябе нібы з боку.

Аднак, лічу, што ўсе публікацыі павінны быць аб'ектыўнымі і кампетэнтнымі. Калі яны не маюць гэтых якасцей, то ператвараюцца ў абсурд. На гэты конт прывяду канкрэтны прыклад. У „Івацэвіцкім весніку" за 17 кастрычніка ў артыкуле „Хоць і ўмовы неаднолькавыя" карэспандэнт газеты С. Сцепанчук піша:

– За восем месяцаў бягучага года тавараабарот у гандлі раёна склаў 85 мільярдаў 962 мільёны рублёў, у тым ліку ў райспажыўсаюзе – 65 мільярдаў 176 мільёнаў рублёў. **І толькі каля трох мільярдаў ён склаў у камерцыйным гандлі, уключаючы вытворча-камерцыйную фірму „Івацэвічы", якую ўзначальвае Кудзінаў. Так што чуткі аб тым, што камерсант Кудзінаў па тавараабароту дасягнуў узроўню райспажыўсаюза, як кажуць, моцна перабольшаны.**

Не ведаю, наколькі адпавядаюць сапраўднасці лічбы гандлёвага тавараабароту раёна і райспажыўсаюза, але ж усё, што датычыць Кудзінава, як піша карэспандэнт, і нашай фірмы – узята, што называецца, са столі, з'яўляецца ілжывай інфармацыяй. У якасці доказу прывяду некалькі лічбаў, характарызуючых работу прадпрыемстваў і ўчасткаў фірмы ўсяго за адзін месяц:

– тавараабарот толькі аднаго магазіна № 15 (г. Івацэвічы, вул. Шаўчэнкі) у жніўні г. г. склаў 1 мільярд 44 мільёны рублёў;

– грашовая выручка аўтазаправачнай станцыі ад продажу ГЗМ насельніцтву ў жніўні г. г. склала 964 мільёны рублёў;

– тавараабарот фірмы „Івацэвічы" ў жніўні г. г. склаў 9 мільярдаў 136 мільёнаў рублёў;

– 2 мільярда рублёў выдзелена цяпер фірмай на расшырэнне вытворчасці: будаўніцтва жывёлагадоўчага комплексу, рэканструкцыю каўбаснага цэха, магазінаў у вёсцы Аброва, гарадах Косава і Бярозе, будаўніцтва аўтазаправачнай станцыі, прадуктовага магазіна і платнай стаянкі аўтатранспарту ў горадзе Брэсце.

Я не называю агульную лічбу тавараабароту фірмы за 8 (ці 9) месяцаў, бо яна з'яўляецца камерцыйнай тайнай і выдаваць яе не дазволена нікому. У тым ліку і мне, бо я нясу адказнасць за лёсы больш за 300 чалавек, якія працуюць у фірме. Але на падставе і прыведзеных мною лічбаў бачна, што тавараабарот нашай фірмы за 8 месяцаў г. г. зусім не роўны 3 мільярдам рублёў. Відавочна, карэспандэнт С. Сцепанчук – эканамічна непісьменны чалавек. Лічу, што журналісцкае пяро аддадзена ў бездапаможныя, непрафесіянальныя рукі, бо і іншыя сцвярджэнні яе артыкула вартыя жалю. Напрыклад, у вусны намесніка старшыні праўлення райспажыўсаюза В. С. Люсцібер укладваюцца словы „...камерсанты ўсё бяруць за наяўныя грошы" (маюцца на ўвазе разлікі з пастаўшчыкамі). Я вельмі сумняваюся, каб спецыяліст В. С. Люсцібер не ведала аб Указе Прэзідэнта РБ ад 5 кастрычніка 1994 года, які забараніў гандлёвым структурам незалежна ад формаў уласнасці (дзяржаўнай, кааператыўнай, прыватнай) весці разлікі за наяўныя грошы. Наша фірма строга прытрымліваецца як гэтага Указа, так і іншых заканадаўчых актаў.

Тое ж можна сказаць і наконт крэдытаў і падаткаў. Крэдыты мы бярэм у банках пад 150 і больш працэнтаў. С. Сцепанчук сцвярджае, што „з кааператыўнага гандлю кожны месяц вылічваюць 12 падаткаў", а „з прыватнага гандлю могуць вылічвацца не ўсе 12 падаткаў". Нейкая несур'ёзная, дзіцячая размова. Наша фірма выплачвае дзяржаве 16 відаў падаткаў. За той жа жнівень г. г. мы выплацілі ў бюджэт 521 мільён рублёў падаткаў.

**– І зноў мы міжволі збіліся на тэму работы. Але чытачам газеты, напэўна, цікава ведаць і аб вашых духоўных прыхільнасцях...**

– Люблю музыку і кіно, асабліва гістарычныя фільмы. Вядома, калі ёсць час слухаць і глядзець. Люблю спорт і, лічу, што ён патрабуе дзяржаўнай падтрымкі. Моладзі сёння нярэдка цяжка рэалізаваць свае фізічныя даныя ці таленты. Наша фірма, як можа, вырашае і спартыўнае пытанне. Мы фінансуем футбольную каманду, якая, дарэчы, добра зарэкамендавала сябе ў гульнях на першынстве вобласці па футболу.

**– Напаследак – пытанне „лёгкае". Як Вы адносіцеся да спіртных напіткаў?**

– Спакойна. У нас няма сухога закону, моцныя нацыянальныя традыцыі, калі і ў свята, і ў горы чалавек прывык бачыць на стале бутэльку з спіртным. Таму, лічу, гэта яго права.

Аднак скажу, што бізнес і гарэлка – рэчы несумяшчальныя. Не паважаю тых, хто ў рабочы час ужывае алкаголь. Ад такіх работнікаў у сваёй фірме, напрыклад, мы стараемся пазбавіцца своечасова.

Л. ЦАЛУЙКА.

● НАБАЛЕЛА

# НАШЫ ЗУБЫ – НАШ БОЛЬ

Памятаеце, шаноўныя чытачы, такі выраз: „Статыстыка ведае ўсё!"? Дык вось, згодна з данымі статыстыкі захворваннямі зубоў у большай ці меншай меры пакутуе 97–98 працэнтаў насельніцтва. Калі не рабіць выключэннем наш горад ці раён, а падстаў для гэтага няма, і паглядзець незатуманенымі зубным болем вачыма на стаматалагічныя ўстановы, бачна наступнае.

У адзін дзень новая стаматалагічная паліклініка ў Івацэвічах прымае на лячэнне каля сарака чалавек. Прычым палова іх ці трохі менш – з паўторнымі візітамі. Насельніцтва нашага горада складае недзе тысячы дваццаць дзве чалавек. Простая арыфметыка паказвае, што за тры гады кожны гараджанін можа з магчымым поспехам для сябе двойчы наведаць зубнога ўрача. Але ж не трэба забываць і на раён, які мае шэсць амбулаторый, але ўкамплектаваны яны стаматолагамі далёка не ўсе. Ды і з Косава, напрыклад, людзі едуць у Івацэвічы, калі іх зубны ўрач адпраўляецца па школах, каб рабіць санацыю школьнікам.

Вось чаму тая чарга, якая вырастае за гадзіну-паўтары да адкрыцця паліклінікі, сціснута, бы пружына гадзінніка. Мучыць не толькі зубны боль, мучыць і пытанне: ці дастанецца талончык? І калі не хапае, то ўся крыўда і ўвесь боль выплёскваюцца на рэгістратаршу. А на каго яшчэ скардзіцца? Бог высока, Прэзідэнт далёка, урач яшчэ не прыйшоў. А калі яшчэ запатрабуюць у рэгістратуры квіток аб праходжанні флюараграфіі, то самі можаце ўявіць, што чалавек адчувае.

Таму, шаноўныя чытачы, ведайце: не стануць вам лячыць зубы, пакуль вы не „сфатаграфуеце" свае лёгкія. І гэта не капрыз дактароў, а неабходнасць, бо добраахвотна мала хто з нас кожны год будзе „фатаграфавацца". І дарэмна – колькасць захворванняў на сухоты рэзка скокнула ўгору.

Ды вернемся да зубоў. Вядома ж, узнікае пытанне – а чаму б не працаўладкаваць у паліклініку паболей урачоў-стаматолагаў? Слушнае пытанне, а для галоўнага ўрача раёна І. М. Рыжка – адно з балючых. І вось чаму. Толькі ў мінулым годзе, напрыклад, у раён павінна было прыехаць чатыры зубныя ўрачы. Не даехаў ніводзін. Чаму? А што можа прапанаваць раён маладому ўрачу, акрамя ратоў сваіх жыхароў з хворымі зубамі? Аклад стаматолага сёння 560 тысяч, а ўзгаданая намі рэгістратарша мае 315 тысяч рублёў у месяц. З кватэрамі ў медыкаў хіба было калі лепей, чым астатнім людзям? Дадайце да гэтага і тое, што цяпер няма ў законе для выпускнікоў ВНУ абавязковай адпрацоўкі пэўнага тэрміну па размеркаванню. Не дапамагае і мэтавае накіраванне. Пакуль вывучыцца дзяўчына – замуж выйдзе і назад ужо не вяртаецца.

Вось такія справы „зубастыя". І хоць час такі, што жаваць тым зубам багата не прыходзіцца, але ж яны, зубы, не толькі жуюць, а яшчэ і хварэюць. Вось і падпірае з самага ранку дзверы стаматалагічнай паліклінікі маўклівая чарга. Кожны спадзяецца, што прыйшоў недарэмна.

Будзем спадзявацца на лепшае і ўсе мы – гэта ўжо наша жыццёвае крэда. А яшчэ жаваць „Орбит" без цукру (калі ёсць грошы) – мо не ўся тэлевізійная гаварыльня з'яўляецца лухтой.

В. ГАПЕЕЎ.

## Знаёмцеся: Таццяна Цэрковіч



*Як чалавек выбірае сабе прафесію? Ды па-рознаму. Адны вызначаюць свой жыццёвы шлях ужо са школьнай парты. У іншых гэты шлях, нечакана для самога чалавека, вызначае само жыццё.*

*Так здарылася і з Таццянай Яўгенаўнай Цэрковіч. У тэхнікуме вучылася яна адной спецыяльнасці, а працаваць давялося па іншай, далёкай ад набытай у час вучобы. Здарылася гэта 15 гадоў назад, калі лёс прывёў Таццяну Цэрковіч на чыгуначную станцыю Івацэвічы, дзе і стала яна аператарам пры дзяжурным па станцыі. Кемлівая дзяўчына хутка зразумела, што і да чаго, хаця ўчастак работы дастаўся ёй больш чым адказны: менавіта ад дзяжурнага з аператарам залежала і працягвае залежаць бяспека руху цягнікоў.*

*Хутка Таццяна Яўгенаўна зразумела, што канчаткова знайшла сваё месца ў жыцці. Таму не раздумваючы падала дакументы ў Гомельскі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту, паспяхова вытрымала ўступныя экзамены, а яшчэ праз пяць гадоў атрымала дыплом інжынера па кіраванні працэсамі чыгуначных перавозак. У той час яна працавала ўжо дзяжурнай па станцыі, што гаворыцца, „прыкіпела" да сваіх пультаў і стэндаў, па якіх пракладвала шлях праз станцыю пасажырскім і грузавым цягнікам.*

*– Я адказваю за бяспеку руху цягнікоў, кірую манеўровым рухам на станцыі. Каб усё было добра, трэба быць незвычайна ўважлівым, не ўпускаць з поля зроку аніякай дробязі, – апавядае пра сваю работу Т. Я. Цэрковіч.*

*Замоўчвае жанчына пра тое, што ўвага і адказнасць, пра якія яна казала, нялёгка даюцца днём, а тым больш ноччу, якая па-свойму ўздзейнічае на арганізм чалавека. Патрэбны пэўная сіла волі, пэўнае пачуццё адказнасці, нарэшце, адданасць абранай прафесіі, каб начная змена праходзіла як дзённая, без „ЧП". У Таццяны Яўгенаўны атрымліваецца менавіта так – і, як гаворыцца, дзякуй за гэта Богу, бо чыгунка ёсць чыгунка.*

*...На стэндзе пралягла светлавая лінія. Гэта маршрут падыходзячага да станцыі цягніка. І вось заміргалі, пераскокваючы з месца на месца якраз па пракладзенаму на стэндзе маршруту, чырвоныя светлячкі. І тады на ўсю станцыю гучыць прыемны голас дзяжурнай: „На першы пуць ад перона прыбывае пасажырскі цягнік № 195 Масква–Брэст. Стаянка цягніка – 10 хвілін..."*

*М. МІКАЛАЕЎ.*

*НА ЗДЫМКУ: дзяжурная чыгуначнай станцыі Івацэвічы Т. Я. Цэрковіч.*
*Фота А. КАНУННІКАВА.*

